Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Вострабрамская 9.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл. 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 19 жніуня 1932 г. № 23 (48)

## На коопэратыуны фронт!

У першыя гады пасьля заканчэньня Вялікае вайны, калі наш край быў зруйнаваны таптаўшымі яго чужацкімі арміямі, а аб правільна наладжаным гандлі і дастаўцы патрэбных насяленьню тавараў і прадуктаў не магло быць гутаркі, —беларускае сялянства пачало само шукаць рады, каб выйсьці з бяды, і знайшло спосаб атрымліваньня ўсяго таго, што патрэбна было яму да жыцьця. На ўсім прасторы Заходняе Беларусі масова паўставалі *спажывецкія коопэратывы*, якія стварылі свой супольны цэнтр—саюз, і той вельмі ўдатна ў працягу некалькіх гадоў абслугоўваў шырокія народныя масы, дастаўляючы ім цукер, соль, газу і т. п., чаго прыватныя гандляры рабіць тады не маглі. — Але пачало ізноў наладжвацца нармальнае жыцьцё, неабходныя для народных мас прадукты пачалі зьяўляцца ў вольным гандлі ў дастатачнай колькасьці, — і вось грамадзкая самадзейнасьць слабее, коопэратывы, без якіх можна ўжо абыйсьціся, пачынаюць ліквідавацца, заслужоны беларускі коопэратыўны цэнтр прымушаны зрачыся сваей самастойнай ролі і зьліцца з агульна-польскім саюзам.

Каротка кажучы, гісторыя вельмі шыбкага росту і пасьля ўпадку самастойнага беларускага коопэратыўнага руху прадстаўляецца гэтак: *была бяда — былі коопэратывы; няма бяды — няма й коопэратываў.*

Нельга, аднак, сказаць, што коопэратыўны рух сярод беларусаў зусім занапаў. Не: ён ёсьць, патроху разьвіваецца, хаця чыннай асталася мо' нейкая пятая частка колішняе лічбы коопэратываў. Характэрна, што пасьля зьліцьця беларускага саюзу коопэратываў з агульна-польскім частка коопэратываў не далучылася да ніякага цэнтру; таксама і твораныя ў апошнія гады коопэратывы жывуць неяк саматугам, не далучаюцца да ніякага саюзу.

Перажываны цяпер нашым краем, як і ўсенькім сьветам, востры эканамічны крызіс вымагае *ўзнаўленьня грамадзкае самадзейнасьці ў гаспадарчай галіне.* Старая пасьляваенная бяда была ў тым, што *ня было тавараў*, ня было скуль іх даставаць. Цяперашняя наша новая бяда — тое, што тавараў ёсьць ажно зашмат, але — *няма грошы*, каб іх купляць. І селянін, які прадае прыбытак сваей гаспадаркі за поўдарма, прымушаны ўвесь свой спрыт ужываць на тое, каб усё неабходнае яму да жыцьця купляць магчыма *найтаньней*, бо кожны грош дастаецца яму нязвычайна цяжка. І грамадзкая самадзейнасьць мусіць быць цяпер пакіравана на вышуківаньне *найтаньнейшых крыніц* дзеля набываньня ўсяго, што неабходна для вёскі.

Вось тут ізноў адкрываецца шырокі прастор дзеля *коопэрацыі*. Коопэратыў можа кожную рэч прадаваць крыху таньней, чым прыватны гандляр, — а пры сучасным крызісе, паўтараем, кожын зьберажоны грош мае для вёскі сваю вагу. Коопэратывы маюць тую перавагу над прыватнымі гандлярамі, што плацяць меншыя падаткі, а апошнія якраз найбольш балюча б'юць па гандлі наагул. Дый пры набываньні коопэратывамі тавараў праз вялікія аб'яднаньні самі яны атрымліваюць пэўную зьніжку.

Але ня толькі *спажывецкая* коопэрацыя можа і павінна цяпер у нас разьвівацца. Мы ведаем, што цэны на вясковыя прадукты цяпер вельмі малыя, — асабліва на такія, што надаюцца да перапрацоўкі. Вось. да прыкладу, малако: куды яго павязеш у летнюю сьпеку? Пакуль давязеш на торг, яно ўжо змарнуецца, і цаны на яго няма. Шмат карыснейператвараць малако на масла, сьмятану, сыр. Але тут звычайныя сялянскія — *нецэнтрыфужныя* — малочныя прадукты йдуць у прадажу вельмі танна. Дык паўстае патрэба мець у вёсцы цэнтрыфугу, мець адпаведныя прылады да вырабу малочных прадуктаў. Аднаму купіць іх немагчыма: зрабіць гэта можна толькі супольнымі сіламі ўсяе вёскі, або й некалькіх вёсак — шляхам стварэньня *вытворчае коопэратывы.* — І ў гэтым кірунку ў беларускіх вёсках праца ўжо пачынаецца.

Але пачынаньні гэтыя—вельмі йшчэ слабыя, абмежаныя. Іх трэба разьвіць шырака, трэба вясьці *шырокую прапаганду* гэтага віду грамадзкае самадзейнасьці ў нашых вёсках. Трэба навучыць людзей, як вясьці работу. У гэтым кірунку мусяць учыніць высілкі ўсе беларускія грамадзкія арганізацыі, незалежна ад іх кірунку і палітычнае ахвярбоўкі.

Ведама, было-б найкарысьней, калі-б стварыўся нейкі *адзін агульна-беларускі кіраўнічы цэнтр гаспадарчае працы.* Але ў нашых сумных варунках, пры сучасным расьцярушаньні грамадзкіх сіл і ўзаемным „зьяданьні" — аб такім цэнтры нельга і думаць. Дык няхай-жа існуючыя арганізацыі і ўстановы, хоць і йдучы паасобку, дружна скіруюць свае высілкі *на коопэратыўны фронт*, няхай робяць *адну работу*, дапаўняючы сябе ўзаемна. Мамэнт лішне паважны, каб па старому палітычныя праціўнікі стараліся толькі псаваць ці „ўзрываць" чужую працу. Далей ісьці сяньня па старым шляху — *падвойны праступак.*

## Праўда аб Купале і Ігнатоускім.

### Новыя весткі аб самагубных замахах Я. Купалы і Ус. Ігнатоўскага.

Ад асобаў, якім у апошнім часе ўдалося неяк прабрацца праз „зялёную граніцу" з Савецкай Беларусі, даведаліся мы аб некаторых падробнасьцях пакушэньня на самагубства Я. Купалы і праф. Ус. Ігнатоўскага, што давяла апошняга да сьмерці.

Насамперш абодва нашы інфарматары цалком пацьвярдзілі самы факт разыграўшаеся ў Менску трагедыі. Мала таго, абодва яны сьцьвярдзілі, што, ня гледзячы на ўсе высілкі Г. П. У. укрыць ад грамадзянства гэтыя жудасныя факты, **увесь беларускі народ** на прасторы **усяе Савецкай Беларусі** ведае **праўду аб сваіх найлепшых сынох дый аб прычынах, прымусіўшых іх налажыць на сябе рукі.**

——

Я. Купала, як і шмат хто з найпаважнейшых беларускіх дзеячоў, быў арыштаваны па абвіненьню ў „нацыянал - дэмакратызьме" дый пацягнены на „баданьне".

Трэба ведаць, як робіцца ў апошнім часе „ўдасканаленым спосабам" гэтае „баданьне". Новы спосаб называецца „конвэйерам". Гэта слова англійскае, абазначае: пераносчык, падавальнік і—ашуканец (!). Але, як тэхнічны тэрмін, яно запазычана з фэрдаўскіх аўтамабільных фабрыкаў, дзе так завецца вялізарнай даўжыні пас, па якім павольна прасоўваюцца перад рознымі групамі работнікаў розныя часткі аўтамабілю, падлягаючыя чарговай апрацоўцы. Вось-жа новы спосаб допросу, названы агентамі Г. П. У. „конвэйерам", адбываецца так. Чарговую ахвяру Г. П. У. дапрашываюць па 2 сьледчыя, якія зьмяняюцца кожную гадзіну новай парай, але „баданьне" ахвяры ідзе бясспынна гадзіна за гадзінай, дзень і ноч, суткі, другія, трэція. Падчас допросу на ахвяру ўплываюць рознымі „псыхолёгічнымі" спосабамі: уговорамі, абяцанкамі, страхамі, пагрозамі расстрэлу і т. д. Каб жа ахвяра, замарыўшыся, не заснула, за ёю ўсьцяж стаіць чырвонаармеец, ці шпік, які „падтрымлівае яе бадзёрасьць"... Калі ахвяра „дасьпее", тады ей прапануюць уласнаручна напісаць паказаньне на сябе, якое ей... дыктуе з гатовай паперкі чарговы сьледчы. Зразумела, што ня бывае выпадкаў, каб „спосаб конвэйеру" ня даў „пажаданых" вынікаў...

Калі Купала, „бадавы" такім спосабам у працягу 36 гадзін (!), напісаў сам на сябе паказаньне з „пакаяньнем", а пасьля, астаўшыся адзін у вастрозе Г. П. У., ачухаўся і усьведаміў сабе, што яму прадыктаваў сьледчы, дык... выбраў шкло з акуляраў, разламаў яго напалову і перарэзаў сабе вэну (жылу)... Але жыцьцё „народнага песьняра Беларусі" пільна сьцерaглі чэкісты, якія, н[е] даўшы яму выпусьціць усю кроў, здолелі [у] час выхапіць яго з рук сьмерці...

——

З няшчасным Ігнатоўскім выйшла г[о]рэй.

Апроч такога-ж „баданьня", камуністы[ч]ныя ўлады, да якіх ён заўсёды адносіў[ся] больш, чым лёяльна, прыгатавалі яму дада[т]ковую „нагароду". Абодвух яго сыноў тэр[о]рам і ашуканскімі нагаворамі „апрацавал[і]

так, што яны выракліся роднага бацькі („быўшага бацькі“, як афіцыяльна пішацца ў такіх выпадках у СССР) і надрукавалі аб гэтым фармальную заяву. У заяве гэтай абодва сыны „сцьвярдзілі“ перад уладамі і народам (пэўне-ж пад дыктоўку Г. П. У.!) усю „няшчырасьць камуністычных перакананьняў“ іх бацькі, хаця той, як ведама, быў першым закладчыкам і арганізатарам беларускага камунізму і камсамолу, што сцьвярджаў ня так даўно спэцыяльна ахвяраваны Ігнатоўскаму ў дзень яго юбілею нумар „Маладняка“. Прачытаўшы, як бэсьцяць яго ўласныя ягоныя сыны, абвінавачываючы бацьку, што быццам ён адно казаў навонках, а другое гаварыў ды рабіў дома, Ігнатоўскі сказаў жонцы, што пасьля гэтага наагул ня варта жыць, і ён мусіць пакінуць жыцьцё, ды прасіў яе, каб яго не ратавала... Пасьля гэтага ўзяў і стрэліў у сябе.

——

Так зарэагавалі на новы „проці-нацдэмаўскі“ „чыста пролетарскі“ курс сталінаўскай палітыкі ў Савецкай Беларусі два найлепшыя творцы-работнікі на ніве беларускай поэзіі і навукі. Вечная слава іх маральнай сіле і вечная ганьба іх катам!

## Задоўжанасьць вайсковых асаднікаў.

„Слово“ ў нумары з 13 жніўня дае нязвычайна цікаўныя цыфры задоўжанасьці вайсковых асаднікаў на „Усходніх Крэсах“. З гэтае крыніцы даведваемся перад усім аб стане вайсковага асадніцтва на землях Заходняе Беларусі і Валыншчыны:

| Районы: | Агульны абшар у гэктарах: | Лічба асадаў: | Сярэд-я на асаду гэктараў: |
|---|---|---|---|
| 1. Віленшчына . . . . | 17.083 | 1.036 | 16,49 |
| 2. Горадзеншчына і Ваўкавыскі пав. . . . . | 11.746 | 700 | 16.78 |
| 3. Наваградчына . . . | 30.295 | 1.642 | 18,45 |
| 4. Палесьсе . . : . . . | 29.947 | 1.262 | 23 73 |
| 5. Валынь . . . . . . . | 48.121 | 3.278 | 14,68 |

Як бачым, на паказаным абшары агульная колькасьць зямлі, аддадзенае вайсковым асаднікам, дасягае 137.139 гэктараў, а лічба вайсковых асадаў — 7.918. Найбольш асадаў — 40 з нечым працэнтаў — прыпадае на Валынь, і тамака яны найменшыя.

Вось-жа ўсе гэтыя 137.139 гэктараў гэтак абцяжоны даўгамі:

| | |
|---|---|
| Нясплачаныя дапамогі і льготныя крэдыты . . . . . | 18.007.300 зл. |
| Пераходныя пазыкі ў Дзярж. Рольным Банку . . | 3.375.700 зл. |
| Доўгатэрміновыя пазыкі ў застаўных лістох Дзяржаўнага Рольнага Банку . . . . | 6.736.700 зл. |
| Пазыкі ў пасрэдніцкіх крэдытных установах і сельска-гаспадарчых спулдзельн. | 15.000.000 зл. |
| Прыватныя пазыкі . . . . . | 4.000.000 зл. |
| Разам . . | 47.119.700 зл. |

Калі раскласьці гэтыя 47 мільёнаў злотых доўгу на ўсе асады і лічбу гэктараў, дык выйдзе, што на асаду сярэднім лікам прыпадае **6.000** злот. доўгу, а на гэктар зямлі — **340** зл.

Абшарніцкая газэта называе задоўжанасьць паноў вайсковых асаднікаў „колёсальнай“, навет раўнуючы да задоўжанасьці панскіх двароў.

## Жыцьцё Польшчы.

### Бюджэтны недахоп за ліпень.

Як падлічыла міністэрства Скарбу, бюджэтныя выдаткі Польшчы за ліпень перавысілі даходы на 16, 6 мільёнаў зл.

### Банк Краёвай Гаспадаркі аб гаспадарчым стане Польшчы.

Чаргавы бюлетэнь Банку Краёвай Гаспадаркі дае гэткія інфармацыі аб гаспадарчым стане Польшчы за мінулы чэрвень.

Наглядалася значная звышка курсаў польскіх цэнных папераў, але гэта вынік не гаспадарчага ўздыму Польшчы, але—Лёзанскай Канфэрэнцыі, вырашыўшай неяк справу нямецкіх адшкадаваньняў. Агульнае палажэньне грашовага рынку ў Польшчы—тое-ж: таксама не хапае гатоўкі навет для зьменшанага гаспадарчага абароту ў краі. Крэдыт, як і ўклады ў банках ізноў скараціліся, асабліва-ж у прыватных банках. У галіне сельскай гаспадаркі наглядаўся новы катастрафічны спадак цэнаў на збожа, выкліканы забойчымі весткамі... аб дасканалым ураджаі збожа ў краі і за граніцай... У галіне цяжкай прамысловасьці — крыху павялічылася дабыча вугальля і вываз яго заграніцу. Прадукцыя нафты стаіць на тым-жа роўні. У іншых галінах прамысловасьці і гандлю, асабліва загранічнага, далейшы сталы заняпад.

### Гандлёвая ўмова Польшчы з Францыяй.

У Парыжу падпісаны новы гандлёвы дагавор паміж Польшчай і Францыяй. Дагавор мае тымчасовы характар і мае мэтай аблягчыць таварны абмен між абыдвума краямі, якому вельмі перашкаджалі мытна-абаронныя меры з боку Францыі ў апошні час.

## З жыцьця Літвы.

### Перамога Літвы ў Гаагскім Трыбунале.

Міжнародавы Трыбунал Справядлівасьці ў Гаазе выдаў прысуд у справе ведамага канфлікту між Нямеччынай і Літвой у справе нарушэньня літоўскім урадам аўтанамічнага статуту Клайпэды. Гаагскі Трыбунал прызнаў, што літоўскі ўрад не нарушыў аўтаноміі Клайпэды, бо меў права сачыць за дзеяльнасьцяй яе ўраду і прымаць адпаведныя свае меры, калі гэтая дзеяльнасьць пагражала дзяржаўным інтарэсам Літвы, якая мае суверэнную ўладу над Клайпэдай. Такім чынам прысуд Гаагі ёсьць яўнай перамогай Літвы і паражэньнем Нямеччыны.

## Беларусы у Літве.

### Першыя крокі на правінцыі.

Нядаўна з'арганізаванае ў Коўне Беларускае Культурна-Прасьветнае Т-ва пачало ўжо працу на правінцыі. Першы крок зроб-

**Ант. Навіна** (А. Луцкевіч).

## Янка Купала, як Прарок Адраджэньня.

(Працяг).

Каб нешта прарочыць, каб прарочыць прабуджэньне беларускага народу зо-сну ў той час, калі над гэтым народам жорстка панавала царская Расея, а сыны яго нягодна выракаліся сваей нацыянальнасьці і прадавалі духовыя скарбы свае чужакам-наездчыкам,— дзеля гэтага трэба было крэпка верыць у сваю ідэю, трэба было мець і нейкія об'ектыўныя падставы для такое веры. І Купала знайшоў гэтыя падставы — у слаўнай мінуўшчыне свайго народу. Ен зварачаецца да яе ў цэлым радзе лірычных вершаў, ускрашае яе ў сваіх поэмах, у сваіх перапрацоўках народных легендаў, часта мо' навет залішне ідэалізуе яе (прыкладам у вершы „Над Нёмнам“ і інш). Купала шукае ў сваім народзе духовае спадчыны ад даўных часоў вольнага, незалежнага бытаваньня — і таксама знаходзе яе. А найбольш яркі абраз гэтага дае ў сымболічнай поэмцы сваёй — „На Куцьцю“.

Раз у год — на Куцьцю — у парослых мохам руінах старадаўнага беларускага замшчыча узнаўляецца колішняе жыцьцё. У княжых сьвятліцах, нейкай чарадзейскай сілай паднятых з развалін, зьяўляецца Князь-Дух з княжнай і «дружына вольная» яго. Князь узыходзе на свой «беласьнежны пасад» і зварачаецца да прысутных з прамовай, у каторай выясьняе мэту ўскрашэньня мінулага жыцьця на адну гэту ночку:

«Адзін, адзін раз толькі ў год
Зьбірацца можам з ласкі Рока,
Каб лет іржавы карагод
Зганяць з мінуўшчыны далёкай.

Нас не кранулі косы зьмен:
Царым мы ў дум жывых гэйнале,
Хоць на падмурах гэтых сьцен
Другія наш пасад занялі.

Багі другія верх бяруць,
Суды вядуць пад нашым краем,
Сьвяцільні-ж нашы не замруць,
Што ў сэрцах вольных рассьвятляем.

Прашу паклікаці ганцоў
І месца даці ім па чэсьці:
Ад нашых стоптаных капцоў
Якія нам прыносяць весьці?»

Ганцы ўваходзяць. А кожны з іх — гэта нейкі сымболь:

...А першы гэткі сьветлы быў,
Як небам сланыя праменьні:
У руцэ меў сьветач, што назьдзіў
Усе усюдых зводзіць цені.

А быў другі і з ног, і з рук,
Як гром з жывымі пярунамі:
У руцэ меў стрэл жалезных пук
І лук стальны меў за плячамі.

А трэці быў і раб, і цар,
І слаб, і дуж ўва ўсякім дзеле.
Як вечнасьць, молад быў і стар;
Меў гусьлі — на грудзёх віселі.

І вось, што кажуць яны Князю:

І першы князю гэткі сказ
і княжне кажа міласьцівай:
«Я абыйшоў іх тройчы раз
«І відзеў, што яшчэ ўсе жывы.

«А толькі ўсё той самы лад:
«З вачэй ня зьняты йшчэ павязкі.
«Ці йдуць уперад, ці назад,
«Відны сьляды цямрычнай ласкі.

«А як ішоў між іх з сьвятлом,
„Яны пачулі, ах, пачулі:
«Сьляпым заморaныя сном,
„Худыя рукі ўвысь цягнулі.

„За мною ўсьцяж, і тут, і там,
„Іх вусны бледныя шапталі:
„Аддайце сонца наша нам!
„На што схавалі — расхваталі?“

Другі за першым князю сказ
і княжне кажа міласьцівай:
„Я абыйшоў іх тройчы раз
„І відзеў, што яны ўсе жывы.

„А топчуць толькі ўсё той сьлед,
„Валочаць ёрмы за сабою;
„Ці ўбачаць корч, ці ўбачаць цьвет,
„Аднэю жаляцца сьлязою.

„А як чапнуў стралой аб лук,
„Яны скрануліся ў прасоньні,

лены быў у Мэрачы, а цяпер у вёсцы Бразэлі Мусьніцкае вол., Вілкамірскага пав., адчыніўся аддзел Т-ва, які 7-га жніўня ўладзіў у Бразэлях беларускі вечар. Пастаўлена была п'еска „Зьбянтажаны Саўка“, пасьля якое адбылася дэклямацыя твораў Бурачка і Купалы, а хор праняяў цэлы рад беларускіх і літоўскіх песьняў, выклікаўшы вельмі гучныя воплескі чысьленае публікі. Хорам кіраваў гр. Матач, які і сам выступаў на канцэрце ў дуэце з гр. Мадмазам. Добра пяяла солё і грам. Матачовая. На заключэньне адбыліся танцы.

Вечар наагул прайшоў удатна. На вечар прыехала і цэлая група беларусоў з Коўны.

## Беларусы у Латвіі.

### XI выпуск настаўнікаў.

Беларускія Дзяржаўныя Вучыцельскія Курсы ў Рызе выпусьцілі сёлета 12 новых беларускіх настаўнікаў і настаўніц, — паіменна: 1) Багдановіч Ян, 2) Вэнэдыктава Антаніна, 3) Дынабурскі Сэрафім, 4) Дэйвіс Антаніна, 5) Енічонак Станіслаў, 6) Казакевіч Эмілія, 7) Каяла Язэп, 8) Кудраўцава Ганна, 9) Мадзалеўская Зінаіда, 10) Тумоўская Юлія, 11) Ціхаміраў Аркадзь, 12) Шаламіцкая Ніна. Шасьцёра маюць правы выкладаньня і латышскае мовы, што вельмі важна: дагэтуль у беларускіх школах дзяржаўную мову выкладалі вучыцялі латышы, бо беларусаў з адпаведнымі кваліфікацыямі ня было.

Як экстэрн, здаваў і вытрымаў экзамены Пятро Масальскі, малады беларускі поэта (піша пад мянюшкай Пятро Сакол).

### Праца аб беларусах.

Малады эстонскі вучоны Вільгельм Эрніто, як падае толькі-што выпушчаны № 3 „Беларускае Школы ў Латвіі“, займаецца дасьледаваньнем беларускае і вялікарускае мовы і ўзаемаадносінаў іх да мовы эстонскае. Праслухаўшы курс беларускае мовы ў Варшаўскім унівэрсытэце, грам. Эрніто пабываў з дасьледчымі мэтамі ў беларускіх вёсках Віленшчыны і адбыў падарожу па Латгаліі.

### У Бел. Нав.-Краязнаўчым Т-ве.

15 ліпня адбыўся сход закладчыкаў Беларускага Навукова-Краязнаўчага Т-ва, на якім выбраны часовы Урад у складзе: К. Езавітаў—старшыня, А. Родзька — намесьнік старшыні, С. Сіцько—скарбнік, Г. Нікіфароўская—сэкратар, М. Краўчанка — вольны сябра. Урад зьвярнуўся да беларускага грамадзянства ў Латвіі з заклікам да зьбіраньня этнаграфічных матэрыялаў.

## С.С.С.Р.

### Нафтавая ўмова Францыі з СССР.

Французскія нафтавыя прамыслоўцы падпісалі з урадам СССР умову, на падставе якой СССР мае дастаўляць Францыі штогодна паўмільёну тоннаў нафты. Умова прадбачана на 5 гадоў.

Як ведама, навакол гэтай радавай нафты ў Францыі йшла зацятая барацьба з боку нафтавых канкурэнтаў СССР і былых уласьнікаў сканфіскаваных радавым урадам прыватных прадпрыемстваў.

### Вынікі прымусовае працы.

Савецкая „Праўда“ б'е трывогу ў справе пабудаванае ў Ніжнім Ноўгарадзе вялізарнае хвабрыкі самаходаў. На гэтай хвабрыцы мелі складацца самаходы з гатовых часьцей, атрыманых з Амэрыкі ад вядомае фірмы „Форд“, а ў будучыні хвабрыка мела пераймсьці на масавую прадукцыю сваіх самаходаў. Хвабрыка пабудована па апошняму слову тэхнікі амэрыканскімі інжэнерамі. Усе работы па пабудове ўжо закончаны больш году таму назад, аднак у рух хвабрыку ніяк пусьціць ня могуць. „Праўда“ ўсваліае ўсю віну на няндбаласьць кіраўніцтва і адсутнасьць дысцыпліны сярод работнікаў. Часьці, выпушчаныя гэнай хвабрыкай, кажа „Праўда“, нікуды ня варты і вельмі хутка зужываюцца.

Ці-ж яшчэ не зразумелі камуністы, што прымусовую працаю далёка не паедзеш?.

**Перачытаўшы газэту — перадай другому.**

## У Нямеччыне.

### Перагаворы Гітлера з Гіндэнбургам.

Гітлер быў прыняты канцлерам Папенам, а пасьля — прэзыдэнтам Гіндэнбургам. На прапазыцыю ўвайсьці ў склад ураду на становішчы віцэ-канцлера Гітлер даў адмоўны адказ, заявіўшы, што ягоная партыя толькі тады возьме на сябе адказнасьць за дзяржаўную палітыку Нямеччыны, калі Гітлер будзе мець усю ўладу, як канцлер. На гэта, ізноў-жа, не згадзіўся Гіндэнбург, і перагаворы сарваліся, ня даўшы ніякіх вынікаў.

### Гітлераўскія правадыры проці Гітлера.

Правадыры Гітлераўскіх бандаў, як Страсэр, Гебэльс і інш., страшэнна нездаволены Гітлерам за яго „палітыку паразуменьня“. Яны адкрыта заяўляюць, што — „ледзь могуць зьдзяржаць абурэньне ў лоне штурмовых калённаў нацыянал-соцыялістаў“, якія — „ірвуцца да рашучай акцыі — да захвату ўлады сілай“. Правадыры гэтых „штурмовых бандаў“ выдаюць адну за адной адозвы да сваіх аддзелаў, заклікаючы „баявікоў“ да спакою і даверу да галоўнага кіраўніцтва партыі.

У апошні час пачалі зьбірацца навакол Бэрліну з усіх бакоў атрады гітлераўцаў. У выніку гэтага — сталічная паліцыя атрымала дадатковае азбраеньне. Усё паказвае, што ўрад Папэна і Шлейхэра зусім не баіцца пагрозаў Гітлера дый хутчэй будзе прыказываць яму, чым слухацца яго загадаў...

### Хатняя вайна ня спыняецца.

Ня гледзячы на падпісаньне Гіндэнбургам новага вельмі вострага дэкрэту, пагражаючага сьмяротнай карай за аружнае выступленьне і супраціўленьне ўладам, узаемныя замахі гітлераўцаў і камуністаў ня спыняюцца. Як і можна было спадзявацца, у выніку новага дэкрэту, прыхільнейшага бясспрэчна да гітлераўцаў, чым да камуністаў, большасьць нападаў наглядаецца цяпер з боку гітлераўцаў, якія спадзяюцца на бязкарнасьць.

---

„І столькі, столькі крэпкіх рук
„К маей паціснулася броні!

„За мною ўсьцяж, і тут, і там,
„Іх вусны бледныя шапталі:
„Аддайце славу нашу нам!
„На што схавалі — расхваталі?“

І трэці князю гэткі сказ
і княжне кажа міласьцівай:
„Я абыйшоў іх тройчы раз
„І ўдзеў, што яны ўсе жывы.

„А толькі торг усё ідзе
„Над іх душою патаптанай;
„Яны, як цені, ў грамадзе
„Маўчаць і йдуць на пір паганы.

„А як я ўдарыў па струне,
„Замятусіліся, як пчолы,
„І на гарэ, і ў нізіне
„Мне падавалі голас кволы.

„За мною ўсьцяж, і тут, і там,
„Іх вусны бледныя шапталі:
„Аддайце песьню нашу нам!
„На што схавалі — расхваталі?“

А князь дае ганцам такі характэрны адказ:

„Ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны,
„Раз хочуць *сонца, славы, песьні.*
„Заб'юць ім зычныя званы
„Прабудным звонам на прадвесьні.

„Сваей забранай старане,
„Скаванай мучаніцы-Княжне,
„Узьнясуць пасад на кургане
„На панаваньне недасяжне.

„На дзеле — кожны йшчэ слугой,
„У думках — вольныя ўжо людзі;
„Над сэрцам іх, над іх душой
„Наш дух вітаці вечна будзе.

„Вы, другі верныя, ганцы,
„Як летась, сёлета, налета
„Усе пагранічныя канцы
„Абходзьце зноў з маім прыветам.

„Гусьлямі, лукам і сьвятлом
»Будзіце, клічце і сьвяціце
„І так спануйце іхнім сном,
„Каб сон іх счэз, і ўсталі жыці.“

Сымболіка, здаецца, ясная: дух слаўнае мінуўшчыны беларускага народу, якое ніхто і нішто ня ў сілах вычыркнуць з памяці людзей, вечна лунаць будзе над нашай бацькаўшчынай, і народ, які ў душы сваёй захаваў імкненьне да „сонца, славы, песьні“, які захаваў адвечную творчую сілу ў сабе, пад подыхам гэнага духа Княжага мусіць раней ці пазьней збудзіцца зо сну.

Няволя, маральны ўпадак, цемра — вось тыя прычыны, дзякуючы якім запраўды-ж трываў у даваеннай Беларусі цяжкі, непрабудны сон. На душу Купалы балюча дзеець рэзкая супярэчнасьць паміж колішняй славай і пазьнейшым заняпадам. І наш поэта пільна шукае ды ў цэлым радзе твораў сваіх выяўляе прычыны заняпаду народнага, прычыны, якія робяць гэткім трудным прабуджэньне й адраджэньне беларусаў.

На першы плян тут выбіваюцца прычыны вонкавыя: нацыянальная няволя, панаваньне чужынцаў, якім Купала кідае вострыя, гнеўныя словы ў вершах „Чужым“, „Нашым ворагам“ і іншых. А з паняволеньнем нацыянальным ідзе поруч няволя соцыяльная, новы від рабства, каторы замяніў сабой стары прыгон. Страшэнным трагізмам і безнадзейнасьцяй веець ад напісанае ў 1908 годзе драматычнае поэмы Купалы „Адвечная песьня“: тут знаходзім такі страшны абраз мужыцкага жыцьця, што жыцьцё гэткае запраўды—страшней за сьмерць! Але мала гэтага: чужацкая ўлада, улада клясавых ворагаў працоўнае Беларусі, ня толькі плоце мужыку-беларусу за ягоную працу бядой, голадам і холадам, але дзержыць яго і ў непрагляднай цемры і — дэмаралізуе. „Людзі чужыя“ — кажа Купала —

....вынясьлі ў гандаль славу, сумленьне,
Праўду на рынак....

і ў атмосфэры прадажніцтва, здрады, адступніцтва узгадовываюць народныя масы. А вынік — нязвычайна трагічны для беларускага народу: кожная спроба сьвядомых адзінак вывесьці свой народ з гэткага стану заняпаду й паняволеньня канчаецца тым, што варожая сіла, каторая ў рабстве трымае наш народ, умее гэткія адзінкі загубіць рукамі самога-ж народу беларускага.

(Працяг будзе).

# Манархічнае паустаньне у Гішпаніі.

10-га жніўня ў Мадрыцэ была зроблена спроба манархічнага перавароту. Некалькі вышэйшых афіцэраў, на чале з камандзірамі былага гвардзейскага палку б. караля Альфонса, з'арганізавалі баявыя атрады контррэвалюцыі, якія раніцай пробавалі захапіць урадавыя гмахі і арыштаваць усіх сяброў ураду. Але рэвалюцыйная міліцыя адбіла першую атаку манархістаў. Тымчасам урад пасьпеў падцягнуць верныя рэвалюцыі ваенныя часьці. Пасьля крывавага бою на вуліцах сталіцы паўстаўшыя часьці арміі былі разьбіты, а блізу ўсе правадыры перавароту — арыштаваны. Толькі некаторым з іх удалося ўцячы ў Португалію ці Францыю.

Беспасярэдняй прычынай паўстаньня быў загад ураду аб масавым звальненьні ў запас афіцэраў гішпанскай арміі. Паўстаньне і зьявілася бліжэйшым чынам бунтам гэтых афіцэраў проці ўрадавага дэкрэту.

Сярод арыштаваных афіцэраў — шмат генералаў, на чале з слаўным ваенным спэцыялістам ген. Сан-Хуріо, якія аддадзены пад суд ня толькі за ўчасьце ў паўстаньні, але і за арганізацыю яго.

На другі-ж дзень гішпанскі ўрад выдаў камунікат аб поўнай ліквідацыі ваеннага бунту. Паўнамоцнік былага гішпанскага караля Альфонса заявіў афіцыяльна, што кароль нічога супольнага з паўстаньнем ня меў, жывучы сабе спакойна ў Чэха-Славакіі.

Гішпанскі парлямант выразіў ураду поўны давер і падзяку за разгром бунту.

Калі ў сталіцы ўдалося лёгка здушыць паўстаньне, дык на провінцыі справа аказалася шмат цяжэйшай. У цэлым радзе мясцовасьцяў урадавыя войскі б'юцца з бунтамі арганізаванымі звольненымі афіцэрамі ваенных часьцей. Адначасна ўрад распачаў пляновую „чыстку“ сярод цывільных урадоўцаў, выкідаючы са службы ўсіх няпрыхільных да рэспублікі.

# З усяго сьвету.

### Новы ўрад у Румыніі.

Правадыр нацыянальна-сялянскай партыі Маніу ня прыняў даручэньня караля стварыць урад, але парадзіў яму зьвярнуцца да найбліжэйшага таварыша Маніу па партыі, яе віцэ-старшыні Міхалахе. Але і той адмовіўся. Тады, парадзіўшыся з Маніу, кароль даручыў стварэньне габінэту сучаснаму прэм'еру, таксама аднаму з галоўных правадыроў тэй-жа партыі, Вайда Ваяводзе, які і стварыў новы ўрад.

### Урадавы крызіс у Кітаі.

З незразумелых прычынаў у такі крытычны мамэнт у Кітаі выбухнуў урадавы крызіс. Прэм'ер нанкінскага ўраду Ванг-Чынг-Вэй выйшаў у адстаўку. Тады галоўны камандзір кітайскай арміі і галава кітайскай рэспублікі Чанг-Кай-Шэк заявіў, што і ён выйдзе ў адстаўку, калі прэм'ер ня возьме сваей адстаўкі назад. З другога боку, паміж нанкінскім урадам і былым валадаром Манджурыі, Чанг-Сю-Ліянгам, які распачаў быў ужо паход проці японцаў, выйшаў востры канфлікт. Адзін з міністраў закідае яму, што ён вымагае вялізарных грошы быццам на вайну проці японцаў, але вайны фактычна не вядзе. Дык і Чанг-Сю-Ліянг таксама падаўся ў адстаўку. Урэшце ўсе міністры ўраду, сьледам за прэм'ерам, падаліся ў адстаўку. Такім чынам Кітай у мамэнт, калі Японія мае распачаць паход проці Пэкіну, апынуўся бяз ураду. Ходзяць чуткі, што Чанг-Кай-Шэк — з мусу ці ахвоты — мае абвясьціць сябе на гэтай падставе дыктатарам Кітаю.

### Насьпявае канфлікт між Амэрыкай і Японіяй.

Міністар замежных спраў Злучан. Штатаў Амэрыкі Стымсон сказаў у камісіі зам. спраў прамову, у якой паміж іншым вельмі востра адазваўся аб Японіі, што яна не шануе падпісанага яе ўрадам пакту Кельлёга.

Японскі ўрад зараз-жа даручыў свайму паслу ў Вашынгтоне заявіць пратэст проці гэтага. Але адказ Стымсона японскаму паслу яшчэ больш „выразны“, чым яго прамова. — Ен заявіў, што Амэрыка ніколі ня згодзіцца на тую ролю, якую захапіла Японія ў Манджурыі.

Калі Японія парушае трактат Кельлёга, дык павінна будзе несьці ўсе пасьледзтвы, якія пацягне гэты яе крок з боку дзяржаваў.

### „Партыя безработных“ ў Паўн. Амэрыцы.

У Паўночных Штатах Амэрыкі стварылася новая партыя — Безработных. Ядро партыі складае арганізацыя ўчасьнікаў у Вялікай вайне, якія страшэнна нездаволены ўрадам за тое, што той ня прыходзе з дапамогай навет безработным вэтэранам вайны ў іх цяперашняй бядзе на груньце крызісу. Правадыр новай партыі, лідэр вэтэранаў п. Уотэр заявіў у гутарцы з журналістамі, што партыя мае мець вялізарны пасьпех. Амэрыка мае 12 мільёнаў безработных, якія ўсе, як адзін, запішуцца ў партыю. Але нездаволеных урадам, навет абедзьвюма галоўнымі партыямі — ў Амэрыцы шмат больш. Дык ён, Уотэр, пастанавіў навет выставіць сваю кандыдатуру на прэзыдэнта рэспублікі на найбліжэйшых выбарах..

Як ведама, амэрыканскі ўрад блізу нічога ня робіць дзеля помачы мільёнам безработных, сярод якіх пачалася такая бяда, якой ня ведае навет згаладая Эўропа.

### Канфлікт Болівіі з Парагваем.

Абодва ваяўнічыя гаспадарствы рашуча рыхтуюцца да вайны, ня гледзячы на тое, што ўжо 19 дзяржаваў Паўдзённай Амэрыкі заявілі трэбаваньне спыненьня ваенных крокаў дый перадачы спору на разгляд палюбоўнага трыбуналу. Урад Болівіі цынічна заявіў, што яго краю нагвалт патрэбны.. уласны порт на рацэ Парагваю (!), які даў-бы яму вольны выхад у Атлянтыцкі акіян. Тады, дадаў ён, ніколі ніякіх ваенных канфліктаў з Парагваем у Болівіі больш ня будзе. Што датычыць спору аб пагранічную тэрыторыю, дык гэта — драбяза... А тым часам кроў ліецца.

# ХРОНІКА.

— **Да лёсу прыватных беларускіх гімназіяў.** Бацькоўскія Камітэты Віленскай і Навагрудзкай гімназіяў атрымалі ад Куратарыуму прапанову выканаць варункі, якія вымагаюцца для існаваньня прыватных школаў новым законам аб школьніцтве. Варункі гэтыя наступныя: 1) статут школы; 2) запэўненьне школе адпаведнага будынку, абсталяваньня і прыладаў навуковых; 3) давесьці, што школа мае выстарчаючыя сродкі дзеля ўтрыманьня. Тэрмін дадзены чатырохмесячны.

— **Дэлегацыя Бацькоўскага Камітэту ВБГ. да Міністра Асьветы.** Бацькоўскі Камітэт Віленскае Беларускае Гімназіі пастанавіў паслаць дэлегацыю да міністра асьветы ў справе далейшага лёсу гімназіі. Ехаць маюць гр. Кепель, старшыня Б. К-ту, і гр. Войцік, сябра К-ту.

— **На „ўсходніх крэсах“—слабы ўраджай.** Саюз зямляўласьнікаў „усходніх крэсаў“ паведамляе, што ўраджай бягучага году наагул ня можа лічыцца добрым. Вельмі пашкодзіла ўраджаю ярыны стаяўшая ў чэрвені ды асабліва ў ліпні страшэнная гарачыня, мясцамі проста папаліўшая не пасьпеўшыя дасьпець каласы.

Гарачыня вельмі прысьпешыла жніво, але ў самы разгар жніва пачаліся дажджы. У выніку гэтага шмат збожа—мясцамі да 70 прац,—асталося на полі ды пачало прарастаць. Шмат дзе іржа зьніштожыла да 60-80 прац. пшаніцы.

# Карэспандэнцыі.

### Водгук падарожы Вучняў В. Б. Г.

*(З-пад возера Нарача).*

Вясной гэтага году сюды прыяжджала экскурсія вучняў Віленскае Беларускае Гімназіі. Экскурсія надоўга асталася ў памяці акалічнага насяленьня, якое з радасным зьдзіўленьнем прыслухоўвалася да беларускае гутаркі школьнікаў: дагэтуль прыяжджалі на Нарач выключна польскія экскурсіі. Але кіраўніцтва тутэйшага „схроніска“ („начулішча“), як відаць, інакш аднялося да беларускае моладзі: яму, відаць, беларускасьць экскурсіі ня прыпала да густу, і яно пастаралася зьнішчыць навет сьлед бытнасьці над Нарачам беларусаў.

Справа вось у чым. У „начулішчы“ ёсьць кніга, у якую запісываюць свае прозьвішчы ўсе экскурсанты. Запісаліся і беларусы—ведама-ж, пабеларуску, — дый яшчэ цытату з вершу Купалы ўпісалі:

К свабодзе, роўнасьці і знаньню
Мы працярэбім сабе сьлед,
І будзе ўнукаў панаваньне
Там, дзе сягоньня плача дзед!

І рысуначак нейкі нарысавалі.

Вось гэта так „абурыла“ далікатнае нацыянальнае пачуцьцё паноў кіраўнікоў „начулішча“, што яны ўзялі ды склеілі дзьве страніцы ў кнізе так, што беларускі запіс счэз...

Цікаўна: якой уладзе падлягае кіраўніцтва „схроніска“ і скуль кіраўнікі гэтае ўстановы бяруць сваё „патрыятычнае натхненьне“?

Нарачанец.

### Ад гумару да турмы.

У вёсцы Краснае, Нова-Пагосцкае вол., жывуць два браты Сардыкі— Сьцяпан і Віктар. Раз неяк пад вечар каля хаты солтыса сабраліся людзі, і паміж імі былі гэтыя Сардыкі, добра выпіўшыя самагонкі. Адзін з іх Сьцяпан, 26 гадоў, пачаў выклікаць ахвотнікаў дужацца з ім, але ніхто не адважваўся, бо ён вельмі сільны. Урэшце вызваўся адзін з братоў Чыпулёнкаў, Валодзька, гадоў 20, і паваліў Сардыка, як п'янога. Сардык, устаўшы, са злосьці ўдэрыў Чыпулёнка. Адбегшы крокаў 20, Чыпулёнак схапіў камень і ўдэрыў Сардыка, які акрываўлены зваліўся на зямлю. На падмогу Сардыку прыбег ягоны швагер і брат Віктар з нажом ды кінуліся гнацца за Чыпулёнкамі, каторыя пусьціліся наўцекі і, дабегшы на сьвінарніка, заперліся ў ім. Сардык з шваграм пачалі ламацца ў сьвінярнік. Тады адзін з Чыпулёнкаў, бачучы, што будзе кепска, схапіў тапор дый удэрыў Віктара Сардыка. Той зваліўся няжывы.

Гэтак пачалося гумарам, а скончылася турмой. Вось што робіць тая цемра, што пануець на нашай Беларускай зямельцы! Няма школ, няма культурнай працы ў роднай мове, няма навет гожае забавы, а калі і бывае якая забава, дык ладзяць яе чужыя людзі ды ў чужой, незразумелай мове. Дык сяляне і знаходзяць для сябе найлепшую забаву ў самагонцы, якая й даводзіць іх да такіх страшэнных вынікаў.

---

— З вёскі Бродзенцы ехалі два купцы, жыхары мястэчка Новы Пагост: Шмуйла Зэйф і Шлёма Дэйч. Яны каля поўначы спаткаліся на дарозе з нейкай падводай, з якое раптам выскачылі двое людзей з рэвальвэрамі і крыкнулі купцом: „Рукі ўверх! Будзе рэвізія“! Купцы, баючыся сьмерці, паднялі рукі ўверх, а „рэвізоры“ пачалі тады ачышчаць аднаму кішані. Другі, бачучы гэта, пачаў уцякаць. Пасьля аказалася, што ў нападзе бралі ўчасьце: лясьнік з Пагосту ды гаёвы з в. Пілат. Справа скіравана да Браслаўскага старасты.

Пагашчанін.

**Бацькі!**
**Навучайце дзяцей вашых чытаць і пісаць пабеларуску**

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯУСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22